# Нашыя людзі не разумеюць гэтага

(Вольна дыскутаваць у прэсе)

Такі прышлося чуць адказ ад тых, хто разам із намі ўцякалі на захад ад маскоўскіх тыранаў, а сёньня самы падтрымоўваюць прэсу, якая ня розьніцца ад „Звязды“, „Известия“.

Няпраўда, нашыя людзі разумеюць розьніцу паміж воляй і няволяй; розьніцу паміж праўдай і няпраўдай. Нашыя людзі знаюць, што можна вычытаць у газэтах: „Беларус“, „Россия”, „Беларуская Думка“, „Новое Русское Слово“, „Новы Сьвят“. Знайшлі Вы адказ?

Рэдакцыя

# УСПАМІНЫ

І мне давялося быць ў Белер-Менску т. званым Беларускім Менску ўжо Малой Беларусі на Амэрыканскай зямлі... Бываюць-жа дзівы на сьвеце, чаму ім не прыгледзецца з бліска? Прыслалі былі ганаровыя запросіны сустрэцца там з вэтэранамі 2 сусьветнай вайны ды яшчэ з кім, пасьля супакою мінулых 20 гадоў... Усяк думалася — запросіны ці загад, а трэба паехаць на сустрэчу з былымі сябрамі мінулых дзён „бурных і хмурных" сваёй маладосьці, якую прышлося змарнаваць не дзеля свае віны і патрэбы. О, „военка, военка..." і тыя палкаводцы, што вадзілі сваіх жаўнераў па усім сьвеце дзеля неякае славы ці патрэбы... Быў-жа Аляксандар Македонскі быў і Напалеон. Быў зьявіўся і Хрушчоў, які аб'явіў быў амнэстыю тысячам і мільёнам, абнадзеіў быў усіх паняволяных людзей вярнуць ім надзею да вольнага і свабоднага жыцьця, хаця і часова. У палякаў быў свой Пілсудзкі і Андэрс. У жыдоў Майсей і Даян... Грэкі мелі свайго Прамэтэя і Пэрыклеса. Кажды народ меў і мае сваіх герояў, а ў сумныя часы сваіх прарокаў, дый у нас Беларусаў была у свой час „залатая пара", як у палякаў „цуд над Віслай". Праўда, народ наш быў занепаў — але знайшліся былі і адраджэнцы, якія паднялі яго з паніжэньня і упадку „людзьмі звацца"..., і хаця мы яшчэ не маем свайго Майсея ці Прамэтэя, але можам надзеяцца на сваіх прарокаў, якія нам прарочылі, што Беларусы дачакаюцца свайго „Залацістага Дня" і займуць свой пасад між народамі, нароўні з іншымі, як ужо нешта падобнае бачым у Арганізацыі т. зв. „U. N." А тымчасам жывем яшчэ ўспамінамі...

Вось-жа, успамінамі — Аб чым? Шмат ёсьць усякіх успамінаў, і мне хочацца спамянуць недаўнае, аб чым цяпер усе гавораць Беларусы дзякуючы папулірызацыі беларускага „Менску", т.зв. „Малой Беларусі". Яго доля ўсіх нас інтрыгуе і мы ўсе больш аб ім думаем як аб былой нашай Вялікай Беларусі, якую з большай трагедыяй яе страцілі ўратаваўшы толькі сабе жыцьцё, якім удоваль нацешыліся ў абстаінах амэрыканскае дэмакрацыі ды не знаходзім меры ацаніць гэта займаючыся драбніцамі, а не той Вялікай Мэтай аб якой так прыгожа ўспаміналіся ад рэдакцыі ў першым нумары часапісу „ВЕЧА". Ці і такія заклікі астануцца ўспамінамі, што нехта толькі напісаў іх, а Беларусы як разбегліся па усім сьвеце, так іх ужо ні хто не сабярэ не толькі ў Бэлер-Менск, але і ў праудзівы МЕНСК нашай Вялікай Беларусі, хаця маем не толькі Беларускае Аб'еднаньне, але і Беларуска-Амэрыканскае з так актыўнымі павадырамі. Але трэба спадзявацца на ўсякія перамены... Былі-ж ужо

ў нашым эміgranцкім жыцьці ўсякія экспэрымэнты ўключна да супольных сьвяткаваньняў Акту 25 Сакавіка ды ў Канадзе і Аўстраліі штогоду падобнае практыкуюць махнуўшы рукою на дэрактывы з партыйных радаў БНРу ці БЦРу, якія апошнім часам сталіся зусім непрацаздольныя аб'еднаць Беларусаў на адной палітычнай плятформе Вялікай Мэты не толькі на тэрыторыі Бэлер-Менску дзе былі расчыніліся ўсякія магчымасьці агульнага Беларускага Аб'еднаньня ды зрабіць там праўдзівы беларускі пасёлак — якбы гістарычны музэй.

Але, не здарма там падчас дажджовай навалніцы так моцна б'юць у скалістыя горы Кастылі і маланкі і грахоча гром з грознай рукі беларускага Пяруна, як-бы напамінаючы, што ён і там іх знайшоў недасьпелымі да дзеячоў у кірунку Вялікае Мэты — узяў ды разагнаў іх адтуль хаця за сем гадоў ужо шмат назьбіралася ў некатарых Беларусаў ня толькі сумных але і прыгожых успамінаў із агульных сустрэчаў ды асабістых вакацый правядзеньня там часу як у сваім асяродку маемасьці Беларусаў. Ды я спамінаю яго з пачуцьцём асаблівага сэнтымэнту, што было неспадзеваным здарэньнем, як ў памятны дзень сустрэўся там із сваім найбольшым дабрадзеям, які уратаваў быў мне жыцьце пад Монтэ Кассыно і доўгі час мы не бачыліся, а тады згакі гадоў... паміж так вялікае грамады Беларусаў... у беларускай атмасфэры ды ў МЕНСКУ...

Думалася, што у гэтым годзе 1970, магло стацца ў Бэлер-Менску агульнае спатканьне усіх Беларусаў, хапіла-б там усім месца. Нават былі некатарыя намёкі — зрабіць гэтак. Але ў жніуні паявіліся асобныя павядамленьня, і тая „зялезная заслона", што ўжо 25 гадоў раздзеляе Беларусаў і на чужыне — зноў зачынілася на неведамы час да новых здарэньняў ці неякага „цуду" у Кастыльскіх горах ці ні раздарожжы Атлянтычнага акіяну, на які ўвесь сьвет чакае...

А падзеі тымчасам маюць сваё значэньне. У 5-тым нумары „Веча" спаміналася ўжо і аб судовых расправах у справе Б-Менску. І зноў насоўваецца пытаньне: „дзе корань нашага няшчасьця" што Беларусам так лёгка падзяліцца бывае, а так цяжка аб'еднацца і дагаварыцца ў напрамку тае самае Вялікае Мэты, якой амаль усе афішуюцца ды нават некатарыя пралілі сваю кроў? Ці не пара ўжо пачаць канкрэтныя перамовы да АГУЛЬНАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ за жыцьця нашых разумнейшых павадыроў, пакуль яшчэ жывыя, як аставіць памяць па сабе „Рабінсонаў", што будавалі свае „рэспублікі" у дзікіх пушчах ды самі пазьней адзічэлі, як прапродкі сёняшніх „хіппі".

*А. Ж.*

# Агляд прэсы — камэнтары

БЕЛАРУС. Дэхвальсыфікаваная гісторыя БНР — крыніца маральнае сілы, із сэрыі артыкулаў БНР паміж варожымі Расеяй і Нямеччынай. *Я. Запруднік.*

„Творцы БНР — не апартуністыя, падстаўленыя акупантамі, а тыя, каго разагналі сілаю зброі бальшавіцкія й нямецкія захопнікі — паўстаюць перад намі, як нацыянальныя рэвалюцыянэры, адданыя справе ўжыцьцёўленьня купалаўскага дэвізу „людзмі звацца“ і БНР-аўскага ідэялу „нацыяй стацца“.

БНР-аўскі ідэял быў Незалежнай Нацыяй стацца, а не „нацыяй стацца“, як вы пішыце. Нацыяй мы сталіся па волі Бога, ад Пскова да Чарнігава ды ад Дона да Нарвы. Мы маем гісторыю, але ўся бяда ў тым, што сёньня ня маем веры. БНР-аўцы 1918 г. былі не нацыянальныя рэвалюцыянэры, а яны былі нацыянальныя рэвалюцыянэры сацыяльсты. На нашу думку такім выразам вы наўмысьля падганяіце на капыл палітыкі эмігранцкай БНР — незалежнасьць, а потым будзем бачыць. Дэвіз БНРаўцаў 1918 г. „людзьмі звацца“ г. зн. жыць ня горш пана, памешчыка; г. зн. яны былі на баку Беларускага Народа. Эмігранцкая Рада БНР і БЦР выбралі дэвіз — непредрешенство ў галіне эканомікі, права, пагэтаму ваш дэвіз ня ёсьць „пунктам апоры, які дае магчымасьць зрушваць сьвет, ды ня ёсьць крыніцай маральнай сілы“.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС № 185. Пытаньне астатачнага ахвармленьня Беларускай Праваслаўнай Царквы. *а. Алімп.*

„Пару зарубежных агэнтаў сваёй палітыкай не дапусьцілі на зьезьдзе ў Саўт-Рывэры да ахвіцыяльнага выступленьня кандыдатуры а. Архімандрыта Язэпа на Беларускага Япіскапа, унёсшы прапанову даручыць справу выстаўленьня такой кандыдатуры Царкоўнай Радзе Беларускай Праваслаўнай Царквы, выбранай тады на зьездзе. Праведзеная хітрымі дзельцамі зарубежжа, гэтая пастанова ідзе ўсупярок з асновамі традыцыйнага саборнапраўства Беларускай Праваслаўнай Царквы і дае ў рукі палітычных дзяльцоў, трапіўшых ў гэтую Раду і ёю кіруючых, незаконную ўладу вызначэньня ў япіскапы асобы, якая выгадная ім з палітычнага боку, або для асабістых сымпатыяў, як напр. яп. Апанасі, а не для дабра Беларускай Царквы“.

Не пару зарубежных агэнтаў, а большасьць дэлегатаў зьезда падтрымалі сваіх фюрараў. На зьезд былі падабраныя прадстаўнікі беларускага фашызма, для якіх прынцып фюрарства ёсьць закон. Дыктаваць гэта адна із прычын чаму мараль у іхных арганізацыях

спусьцілась на самае дно пекла. Якая ідэя — такая мараль, паводзіны ёсьць рэзультат ідэі.

БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА № 12-13. У артыкуле Яўхіма Кіпеля Смаленск у 1919 г. ды падзагалоўку — Смаленск пасьля абвешчаньня Беларускай Савецкай Рэспублікі, чытаем: „На другі-ж дзень пасьля зьезду, усяму гораду стала вядома, што абвешчана Беларуская рэспубліка й што Смаленск — беларускі горад. Так выглядала із тых картаў ды прапагандовых плякатаў, што былі параскпейваны ўсюды на сьценах. На этнаграфічных картах гарады Ярцава, Вязьма, Бранск і нават Арол уваходзілі ў склад Беларусі! На паўднёвым Усходзе беларуская граніца падыходзіла да самага Мцэнску. На паўдні, з Украінай граніца заставалася непарушанай, а на поўначы — уся Пскоўшчына да самага мора ўваходзіла ў склад Беларусі. Карты былі зроблены добра, шмат у якіх месцах давалася тлумачэньне, што гэта — гістарычныя граніцы Літвы, а Беларусь тая самая Літва“.

Шкада, што мы на эміграцыі не перавыдаём матар'ял пэрыяду абвешчаньня БССР. Гісторыя БССР гэта ёсьць прыклад палітыкі расейскіх бальшавікоў нацыяналістаў, якія прыкрываюцца інтэрнацыянальным камунізмам.

---

Невядома чаму апушчаны факты арганізацыі із біяграфіі памёршага Я. Кіпеля.

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЗБОРНІК (выдавецтва Родны Край № 3). „...Доктар Тумаш займаецца не сваёй працай. Доктар Тумаш ёсьць палітычны і грамадзкі дзеяч, адзін з лідараў свабодных беларусаў, а ён аддаўся дасьледваньнем аб Скарыне. Гэта таксама добрая праца, карысная, але ня першарадная. Трэба перайсьці на палітычную дзейнасьць, ён мае на гэта талент...*(Д)*“,

Доктар Тумаш займаецца палітыкай, толькі з-пад цішка. Толькі навуковая інстытуцыя, вольная прэса могуць дапамагчы беларускім палітыкам, беларускаму грамадзтву, павесьці справу лепш чым яна ёсьць сёньня. Др. Тумаш заснаваў Інстытут Навукі і Мастацтва, невядома чаму, як талентлівы палітык ён, амаль нічога, не зрабіў у гэтым кірунку; тут ён меў і маіць вялікі разгон сваім палітычным талентам.

---

## Зь ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

### *ЕПАРХІЯЛЬНАЯ ЎПРАВА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ*

Гэтым ветліва просім Рэдакцыю беларускага часопісу „Веча“

зьмясьціць наступнае спраставаньне:

## СПРАСТАВАНЬНЕ

Епархіяльная Ўправа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Амэрыку й Канаду, на сваім пашыраным паседжаньні дня 5-га верасьня 1970 году, аднаёміўшыся з неадказваючымі праўдзе весткамі, паданымі ў газэце „Беларускі Голас“ за жнівень месяц № 185, у справе сьмерці і паховінаў сьв. пам. Уладыкі Васіля ў Імя праўды асьветчваем:

1. Няпраўдаю ёсьць, што Уладыка Васіль сам пакончыў сваё жыцьцё, бо прычынаю сьмерці быў атак сэрца аб чым сьветчыць акт сьпісаны лекарскаю камісыяй пры Гарадзкой Управе й лёкарскія доказы у каторых Уладыка лячыўся.

2. Выдумкаю й маною ёсьць, што паніхіды па сьв. пам. Уладыку Васілю адбываліся каля пустое труны, а цела было ў труну ўложана перад вывазам на магільнік, бо ўсапраўднасьці труна з целам была прывезена пахароннаю ўстановаю ў Катэдральны Сабор ў панядзелак 15-га чэрвеня, дзе знаходзілася аж да часу паховінаў дня 17-га чэрвеня, аб чым сьветчыць дырэкцыя пахароннага бюра, што выконвала бальзамаваньне цела.

3. Абрады паховінаў былі выкананы згодна чына паховінаў Архіерэяў і Сьвятароў у асысьце 2-х Епіскапаў і трох дыяканаў.

4. Манлівымі й ілжывымі ёсьць паданыя ў „Беларускім Голасе“ весткі аб нейкай раней выкапанай ў цэнтры магільніка яме й аб забароне Ўладыкам Андрэям там пахаваць і вызначэньні нейкага мейсца на ўбочу магільніка, што ў сапраўнасьці, таксама зьяўляецца злачыннаю выдумкаю, бож магільнік у Іст Брансвіку зьяўляецца ўласнасьцю парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлянд Парку, і выбар мейсца належыць да Парафіяльнае Рады.

Прадыскутаваўшы ўсёбакова паданыя ў „Беларускім Голасе“ пашквільныя, немаральныя, шкодныя для беларускага грамадзтва весткі Епархіяльная Ўправа пастанавіла за пасярэдніцтвам прэсы паінфармаваць беларускае грамадзтва аб сапраўдных фактах сьмерці і паховінаў, каб самі чытачы вынесьлі свой прысуд аб шкадлівай дзейнасьці рэдактара „Беларускага Голасу“ і пацягнуць яго да судовае адказнасьці.

Дня 5-га верасьня
1970 году

*М. Гумен*

М. Гумен

Сакратар Епархіяльнае Ўправы БАПЦ

*ПАМЫЛКІ ДРУКУ*

У вартыкуле „За Беларускую моладзеж“, у № 5 *Вега.*

На бачыне 3-яй, радок 13-ты з долу выдрукавана *стваранэц,* на бач. 6-ай, р. 7-мы з гары — *няпрыцяй,* на тэй жа бач., р. 3-ці з долу — *ладзіла;* а мае быць: *стварэнец, няўпрыцям, хадзіла.*

*Вега* № 5. Дыструкцыя за працай бач. 11 бо інакш ня было-б 51 голасу за такую пастанову, трэба чытаць: ня было-б 51% галасоў за такую пастанову.

---

*УВАГА, СУРОДЗІЧЫ, УВАГА!*



---


Радактар: Dr. P. Markouski Editor
Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

Цана 50 ц. Price 50 ¢

Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204